*21 мая.* Быў у Барадуліна. Яшчэ недзе на пачатку размовы запыталіся адзін у аднаго, дзе цяпер Генадзь Бураўкін — яшчэ ў бальніцы? «Я якраз хацеў яму пазваніць», — сказаў дзядзька Рыгор. А крыху пазней прагучаў званок — тэлефанаваў Генадзь Мікалаевіч. Нельга было не заўважыць, што Барадулін дужа рады быў яго чуць. Пытаўся пра здароўе, зычыў трымацца, пра сябе ж казаў, што не ходзіць, спіна баліць, адзіная радасць, што, можа, «Вушацкі словазбор» выйдзе, да якога, адзначыў, Някляеў прадмову напісаў. Пасля сказаў, што ў яго для Бураўкіна ёсць сюрпрыз, і перадаў трубку мне. Генадзь Мікалаевіч запытаўся, як Барадулін пачуваецца. Я адказаў, што не горш, чым раней. «Ну то і добра», — сказаў ён і дадаў, што цяпер жыве на лецішчы. Я выказаў спадзяванне, што ўвосень мо ўбачымся. Бураўкін: «Будзем спадзявацца. Гэта вам, маладым, жыць і жыць, а нам…»

Потым я папрасіў Барадуліна прачытаць верш, што ён напісаў нядаўна Някляеву. Кажу, што Уладзімір Пракопавіч хацеў пахваліцца, але не змог прыгадаць гэты верш. Барадулін пачаў быў чытаць, але не здолеў разабраць почырк, нават Валянціна Міхайлаўна не дапамагла, аднак дзядзька Рыгор, пакруціўшы і так, і гэтак, усё ж успомніў і прачытаў, дадаўшы перад тым:

«Уладзімір Пракопавіч, ты быў, ёсць і застанешся адзіны, адзіны, адзіны ў гэтым стагоддзі і ў наступным».

*Хай вышэюць крамлёўскія сцены і сцэны.*
*Хай круглее ў памыях прыручаны лыч.*
*Хай жыве правадыр, мудры і незаменны —*
*Уладзімір Пракопавіч!*

Між іншым, не ўзгадаю, у звязку з чым, але я запытаўся, як правільна казаць — «шанцуе» ці «шэнціць». Дзядзька Рыгор: «Можна і так, і так». — «А вось “выпадак” — з націскам на першы склад ці другі?» — «На другі». — «Глеб жа Лабадзенка ў сваёй “Дзіцячай ЗаМове” піша, што на першы». Барадулін, крыху разгубіўшыся, прамаўчаў.

І цяпер, і пасля ён неаднойчы прапаноўваў самагонку (хоць сам даўно не п’е, але дужа любіць частаваць; гэта здаецца дзіўным, аднак у ягонай шафе заўсёды ёсць моцнаградусны пачастунак). Я сказаў, што паспытаю, калі прыеду да яго ў Вушачу. Між іншым запытаўся, ці паедуць яны гэтым летам туды. Барадулін ажыўлена: «Паедзем», — але Валянціна Міхайлаўна запярэчыла: «Ну куды ж мы паедзем? Там халодна, трэба камін таліць. Рыгор жа не ходзіць, а прыбіральня на вуліцы. А ў мяне ў самой здароўе ўжо не тое…» І было бачна, як дзядзька Рыгор адразу разгубіўся, таму я паспяшаўся перавесці размову на іншае…

*16 верасня.* Быў у Барадуліна. Дзядзька Рыгор быў у добрым настроі, часам смяяўся і жартаваў. Выглядаў добра, бо нарэшце пастрыгся, праўда, не галіўся, аднак барада была не такая ўжо вялікая, як я думаў (калі папярэдне стэлефаноўваліся, дзядзька Рыгор казаў, што ў яго барада, «як у маджахеда», і каб я прыходзіў з фотаапаратам). Найперш паказаў падборкі сваіх вершаў, запытаўся, ці можна дзе надрукаваць (праўда, не памятаў, ці публікаваліся яны раней). І калі пасля я зрабіў некалькі фотаздымкаў, Барадулін заўважыў, што гэта, можа, для будучай кнігі.

Дарэчы, зайшла размова і пра Уладзіміра Караткевіча, дык я прыгадаў, што некалі Адам Мальдзіс прапанаваў мне напісаць дакументальную кнігу пра Уладзіміра Сямёнавіча. І хоць я тады адмовіўся, але цяпер думаю, што, можа, некалі і варта паспрабаваць. Гэта тым больш дзіўная прапанова, што Мальдзіс не толькі бліскучы навуковец, але адзін з найбліжэйшых сяброў Караткевіча, да таго ж аўтар выдатнай кнігі пра яго. У адказ дзядзька Рыгор працягнуў руку: «Віншую! Калі Мальдзіс такое сказаў, гэта шмат што значыць».

Ужо пазней пазванілі Някляеву. На Барадуліну была стракатая каляровая кашуля, можа, якіх 1960-х гадоў, ён неаднойчы пытаўся ў мяне, ці падабаецца яна мне. Я адказаў, што дзядзька Рыгор цяпер — дакладны персанаж з някляеўскага «Аўтамата з газіроўкай…», галоўны герой якога насіў кашулю з папугаямі (у Някляева — з «папугамі»). Я так і сказаў Уладзіміру Пракопавічу, што знаходжуся ў гасцях у персанажа з яго рамана, а Барадулін прачытаў два свае вершы:



*Някляеў — перамога! Знасілены сілай лютаю,*
*Ён не прызнае нікога ніх…ютанькі!*

* * *

*Някляеў з лазні, як бярозавы венік.*
*Геній, авантурыст, пісьменнік.*
*Як нельга венік удвая складці,*
*Так і мацака, і ягоныя снасці.*

Дарэчы, калі пілі гарбату, зноў задаліся моўнымі пытаннямі. Рэч у тым, што дзядзька Рыгор увесь час казаў «чай», таму я запытаўся: «Як правільна: “чай” ці “гарбата”?» Барадулін: «І так, і так». — «А вы як кажаце?» — «Чай». — «А як правільна: “чайнік” ці “гарбатнік”?» — «І так, і так». — «Вы як гаворыце?» — «Чайнік». — «А які аналаг расійскаму выразу “то есть”?» — «“Гэта значыць” ці “альбо”». — «А цяпер часта ўжываюць “то бок”…» Але Барадулін перапыніў мяне: «А я ўсё хацеў у некага запытацца, што такое “то бок”! Я і не ведаў!» Тут мы разам рассмяяліся.

*19 верасня.* Быў разам з сябрам Андрэем Палудам у Барадуліна. (Андрэй таксама надзвычай светлы чалавек; бацька двух сыноў, ён некалі быў міліцыянтам, але, не здолеўшы больш трываць ментаўскія парадкі, звольніўся і даўно ўжо працуе ў праваабарончай арганізацыі «Вясна». Дзесяць гадоў таму мы неаднойчы ездзілі ўтрох — разам з Барадуліным — у Вушачу ды па справах маёй кнігі пра Васіля Быкава, якую я тады пісаў, у Віцебск ды Гародню.) Пачуваўся дзядзька Рыгор не лепшым чынам, сядзеў у крэсле, моцна нахіліўшыся наперад, часам гаварыў не дужа зразумела, але ўсё ж зрэдчас жартаваў. Казаў, што хоць бачацца яны рэдка, аднак вельмі рады вітаць Андрэя. Гаварыў пад запіс: «Вельмі прыемна праз столькі гадоў убачыць дарагіх сяброў, і самае цікавае, што яны не змяніліся, амаль памаладзелі, і дзякуючы гэтаму ты ў нечым памаладзеў. На колькі гадоў памаладзеў Андрэй, настолькі я памаладзеў. Я Андрэю жадаю самага добрага, самага вясёлага. Я ўспамінаю вушацкую частушку:

*Андрэй, не дурэй,*
*Не дзяры сарочкі,*
*Не ты ткаў, не ты праў,*
*Не твае і дочкі.*

Андрэй, я вас чакаю ў мяне дома — і тут, і ў Вушачах. Мой дом, як гэта гавораць, — ваш дом. Прыходзьце…»

*21 верасня.* Патэлефанаваўшы, дзядзька Рыгор казаў, што ў яго будуць заўвагі да той нізкі вершаў, якую рыхтую для часопіса «Дзеяслоў». І прачытаў у дадатак верш «Сваячкі»:

*У Някляева Вольга.*
*У Расіі Волга.*
*У абедзвюх шчырасць і глыбіня.*
*Над абедзвюма зорная даланя.*

*17 кастрычніка.* Быў у Барадуліна, каб удакладніць незразумелыя месцы ў рукапісах яго вершаў. Апроч гэтага, дзядзька Рыгор напісаў мне рэкамендацыю для ўступлення ў Саюз пісьменнікаў (ён ужо даўно настойваў, каб я ўступіў у саюз, я аджартоўваўся, што не магу гэтага зрабіць, бо не пісьменнік, але дзядзька Рыгор не раз казаў: «Запомніце: вы абавязкова ўступіце»):

«Рэкамендацыя

Я, Рыгор Барадулін, даўні член саюза пісьменнікаў, даўно і добра ведаю Сяргея Шапрана, крытыка, празаіка, ён добра вывучыў нашую мову і карыстаецца ёй як роднай.

Заўсёды здзіўляе глыбіня даследавання, шырыня позірку на літаратурныя з’явы.

Рэкамендую Сяргея Уладзіміравіча Шапрана ў нашую ўсё-ткі дружную сям’ю.

*Рыгор Барадулін*
*14 кастрычніка 2013*».

Зрэшты, я заўважыў, што я ж не празаік. У адказ Барадулін разгубіўся: а як напісаць? Кажу: ну, мо даследчык літаратуры, хоць таксама мне ніякавата чуць, калі хто так мяне называе, аднак я нібыта ўжо прызвычаіўся. І дзядзька Рыгор перапісаў: «крытыка і даследчыка беларускай літаратуры». (Праўда, перапісваючы, не пакінуў сказ: «Заўсёды здзіўляе глыбіня даследавання, шырыня позірку на літаратурныя з’явы».) Шчыра падзякаваўшы, я заўважыў, што гэтая рэкамендацыя больш важкая за любы ўніверсітэцкі дыплом.

Гэта была, відаць, апошняя рэкамендацыя, якую даў у сваім жыцці Барадулін.

*21 кастрычніка.* Удзень пазваніў Уладзімір Някляеў — яны з Вольгай збіраюцца да Барадуліна, ці паеду?.. Дзядзька Рыгор чакаў Някляевых — падараваў ім два падпісаныя экзэмпляры «Вушацкага словазбору» і апошняе выданне «Кстоў». Валянціна Міхайлаўна накрыла стол, дзядзька Рыгор, нібы ілюзіяніст, спрактыкавана выцягнуў аднекуль з шафы пляшку гарэлкі і біклажку з самагонкай (Барадулін дужа любіць гэтую біклажку, у наборы са срэбраным кілішкам, кожнага разу падкрэслівае, што гэта падарунак Васіля Быкава). Някляеў, абраўшы самагонку, прамаўляў вершаваныя тосты за здароўе Барадуліна і яго «Вушацкі словазбор», шмат і ўдала жартаваў і ўвесь час падтрымліваў святочную атмасферу. Хоць здараліся і сур’ёзныя размовы. Так, да прыкладу, зайшла гаворка пра тое, што ў маладых літаратараў зусім цяпер адсутнічае піетэт да старэйшых. І Барадулін пагаджаўся ў гэтым з Някляевым, які працягваў: «Вось раней з павагай ставіліся да старэйшых, а цяпер цалкам ігнаруюць». Апроч гэтага, Уладзімір Пракопавіч распавёў, што калі Барадуліна вылучылі на Нобелеўскую прэмію, дык у Нобелеўскім камітэце не ведалі, што ж яны павінны разглядаць, бо на той час існавала толькі



некалькі перакладаў вершаў Барадуліна, таму яны проста не сталі абмяркоўваць яго кандыдатуру.

Між тым, сёння быў дзень нараджэння ўнука Міхася Клімковіча, таксама Міхася, яму споўнілася 55 гадоў, дык Някляеў папрасіў Барадуліна павіншаваць яго, і дзядзька Рыгор, узяўшы слухаўку, заспяваў: «Сто год! Сто год! Сто год!..» А калі Уладзіміру Пракопавічу пазваніў Павел Севярынец (пра яго Някляеў зусім нядаўна напісаў артыкул — у сувязі з выхадам Паўла на волю), дык Някляеў казаў: «Павел, ты не паверыш, сядзелі з Барадуліным і гаварылі пра цябе, а тут якраз ты звоніш…» (Хоць насамрэч яно было не так, але Уладзімір Пракопавіч — вядомы міфатворца.) Пасля Някляеў перадаў мабільны Барадуліну, і дзядзька Рыгор з ходу выпаліў: «У краіне нашай звярынец. Няхай жыве Павел Севярынец!»

*24 кастрычніка.* Быў у Барадуліна з дзвюх гадзін да шасці, хоць дзядзька Рыгор пачуваўся не лепшым чынам. Валянціна Міхайлаўна сказала, што такі стан у яго ўжо тры дні. Аддаў яму раздрукаваную нізку вершаў. У сваю чаргу, Барадулін паказаў верш, які толькі што напісаў рэдактару «Дзеяслова» Барысу Пятровічу, — калі я прыйшоў, якраз перапісваў на чыставік, а пасля, даўшы прачытаць, запытаўся: «Нармальна?» І потым падпісаў «Вушацкі словазбор»: «Вяльможнаму спадару Барысу Пятровічу (Сачанку) — каб быў багаты і касматы. Хай Бог бачыць!» Пасля дадаў для падборкі некалькі вершаў, у тым ліку пра Глеба Лабадзенку. Зазначыў: вось Глебу чамусьці не падабаецца, што ён прысвяціў яму верш. «Але ж я нічога дрэннага не напісаў», — неяк разгублена прамовіў Барадулін. Ён ужо ў другі раз тое кажа, і Глеб, калі мы гаварылі з ім пра гэта, прызнаўся, што яму няёмка і ён не ведае, як на гэта рэагаваць. Дык я параіў: «Рэагуй з удзячнасцю». Дзядзька Рыгор, пачуўшы тое, усміхнуўся: «Правільна сказалі».

Перад развітаннем я выйшаў з кабінета, а калі вярнуўся, дзядзька Рыгор запытаўся, літаральна свідруючы мяне пранізлівым позіркам: «Навошта прыходзіць ён, апошні сон?» Не зразумеўшы, я перапытаў. Барадулін яшчэ некалькі разоў паўтарыў сваё пытанне, нават па-руску сказаў тое самае, але я па-ранейшаму не ведаў, што ж на гэта адказаць. І толькі тады дзядзька Рыгор удакладніў, што, пакуль я выходзіў, яму ў галаву прыйшлі вось гэтыя радкі.

*1 лістапада.* Сёння якраз перад маім прыходам у дзядзькі Рыгора была стаматолаг, якая вырвала яму ажно чатыры зубы. Замарозка яшчэ не адышла, Барадулін казаў, што болю няма.

Гаварылі пра цыкл дзіцячых вершаў. (Неяк мне прыйшло ў галаву, што калі чаго нестае ў прыгожым беларускім пісьменстве, дык гэта імянных дзіцячых вершаў. Але хто б мог іх напісаць? Вядома, тры найлепшыя сучасныя паэты: Барадулін, Бураўкін і Някляеў. Праўда, на сённяшні дзень адзін толькі дзядзька Рыгор з аптымізмам успрыняў маю ідэю.) Барадулін сказаў, што хацеў бы лепш гэтую акцыю з Някляевым зрабіць. Патлумачыў: «Генадзя я люблю, але Някляеў мне бліжэйшы. І характарам, і сваім авантурызмам». І пасля падпісаў «Вушацкі словазбор» для Генадзя Мікалаевіча:

«Залатому сябру майму Генадзю Бураўкіну — дзякуй за ўсё!

*І воплескаў,*
*І ўсьмешкаў кадзь*
*Жадаю я табе,*
*Генадзь.*
Твой *Рыгор*
*1.XI.2013 г.*»

Дарэчы, не прыгадаю, у звязку з чым, але неяк успомніў сёння Венедыкта Ерафеева і яго «Масква — Петушкі», у прыватнасці, сцэнку ў цягніку, калі расказвалі гісторыі пра каханне і стары Мітрыч, які таксама вызваўся распавесці гісторыю пра каханне, прыгадаў аднаго начальніка, што плаваў па рацэ ў лодцы, «давил на себе чирьи» і плакаў, а пасля вяртаўся і «пысаўся» ў сваім кабінеце. Пачуўшы тое, Валянціна Міхайлаўна і дзядзька Рыгор зайшліся такім смехам, што я і не чакаў. Барадулін мо некалькі хвілін, адкінуўшы галаў, бязгучна смяяўся, а пасля толькі і змог, што нават не прамовіць — выціснуць з сябе: «Давил на себе чирьи!!!» — і зноў зайшоўся бязгучным смехам… Даўно не бачыў, каб дзядзька Рыгор так весела, ад душы смяяўся.

*(Заканчэнне ў наступным нумары)*

*Фота з архіва аўтара*

# «Прасунутая наркамаўка»



*Настасся МАЦЯШ*

«Прасунутая наркамаўка» — умоўная назва для акрэслення мовы тэксту. Застаючыся ў межах афіцыйнага правапісу, «наркамаўкі», аўтар намагаецца на іншых, неарфаграфічных, узроўнях пазбавіць свой матэрыял штучных, не ўласцівых беларускай мове кампанентаў, уплываў русіфікацыі ды зрабіць яго «натуральным». У выніку маем «тэкст без мяккіх знакаў», але з уласцівымі жывой мове канчаткамі, добрым беларускім словаўтварэннем, належнымі сінтаксічнымі канструкцыямі ды разумным выбарам лексемаў.

«Прасунутую наркамаўку» даўно і шырока практыкуюць у кнігавыдавецкай справе аўтары, рэдактары, карэктары мастацкай літаратуры — тыя людзі, якія звыкла ставяцца да мовы дбайна. У журналістыцы ж немудрагелістыя прыёмы «прасунутай наркамаўкі», якія дапамагаюць зрабіць мову сапраўды беларускаю, як правіла, застаюцца на перыферыі ўвагі.

## Навошта патрэбная «прасунутая наркамаўка»?

Гэтак сталася, што натуральнае развіццё беларускай мовы ўвесь час замінала, не давала спакою нашым уладным суседзям. Цягам XX стагоддзя беларускую мову імкнуліся падкарэктаваць, павярнуць «у патрэбнае рэчышча». Апекаваліся рэформамі людзі, для якіх нашая мова каштоўнасці не ўяўляла, а таму ім не балела гвалтоўнае перакройванне нашай лінгвістычнай сістэмы. Разам з перапісваннем правілаў і нормаў фармавалася ўяўленне пра беларускую як пра мову другога гатунку, ніжэйшую за расейскую. Наступствы гэтай палітыкі, мабыць, будуць адчувальныя яшчэ доўга.

У 90-я гады XX стагоддзя распачаліся працэсы дзеля надання беларускай мове статусу паўнавартаснага сродку зносінаў. Пазбаўленне ж мовы ад штучных савецкіх напластаванняў было звязанае ў першую чаргу з вяртаннем ва ўжытак класічнага правапісу. «Тарашкевіцаю» выходзілі медыі, друкаваліся кнігі.

1 верасня 2010 года набыў моц закон «Аб Правілах беларускай арфаграфіі і пунктуацыі». Яшчэ на стадыі разгляду дакументу, за некалькі гадоў да прыняцця, пачала імкліва скарачацца медыяпрастора, якая выкарыстоўвала класічны правапіс. Выдаўцы, рэдактары і аўтары матывавалі пераход на афіцыйны правапіс пазазаконнасцю «тарашкевіцы». Але разам з мяккімі знакамі з тэкстаў зніклі рэчы, якія, хоць і лічацца паказнікам «класічнасці», уласна да арфаграфіі не маюць ніякага дачынення, законам не рэгулююцца, а значыць, журналісты могуць і надалей выкарыстоўваць практычна ўвесь арсенал лінгвістычных сродкаў, каб зрабіць мову сваіх матэрыялаў больш адметнаю, сапраўды беларускаю.

Максімальна вяртаць беларускай мове яе спрадвечныя рысы, уласцівыя жывой гаворцы моманты і пры гэтым не парушаць існай заканадаўчай базы і пакліканая «прасунутая наркамаўка».

## Што рэгулюе закон «Аб правілах беларускай арфаграфіі і пунктуацыі»?

Як відаць з назвы, дакумент рэгулюе арфаграфію (правапіс) і пунктуацыю — толькі два з мноства раздзелаў навукі аб мове. Гэта значыць, што на іншых узроўнях мы можам спакойна (не парушаючы закону) абіраць варыянты, якія будуць актывізаваць унутраныя рэзервы мовы і спрыяць яе натуральнаму развіццю. Калі сцісла, арфаграфія кіруе выбарам літары пры напісанні слова: сістэматызуе правапіс галосных, зычных, мяккага знака і апострафа, вялікай і малой літараў, таксама напісанне словаў разам, асобна або праз злучок і ўсталёўвае правілы пераносу. І гэта ўсё! Астатняе — не арфаграфія!

Пунктуацыя (знакі прыпынку), у адрозненне ад арфаграфіі, гарачых дыскусіяў сярод карыстальнікаў не выклікае, таму гэтую частку закону разглядаць тут не будзем.

Што застаецца па-за сфераю рэгулявання «Правіламі»? Надзвычай важныя ўзроўні мовы: граматыка, словаўтварэнне, формаўтварэнне, лексіка, сінтаксіс, фразеалогія, стылістыка. Не выходзячы за межы афіцыйнага арфаграфічнага стандарту, мы можам пры дапамозе гэтых моўных узроўняў зрабіць са «школьнага правапісу» «прасунутую наркамаўку».

## Як рэалізоўваць «прасунутую наркамаўку»? Канчаткі як паказнік «прасунутасці»

Найперш звернем увагу на граматыку — выбар канчаткаў. Варта адарвацца ад школьных уяўленняў пра скланенне назоўнікаў і ўзяць за ўзор жывую народную мову.

Назоўнікі мужчынскага роду на зычны ў родным склоне маюць канчаткі ***-у*** і ***-а***. Прычым у гаворках канчатак ***-у*** выкарыстоўваецца значна шырэй, чым акрэсліваюць граматыкі ды слоўнікі. (Пашырыла канчатак ***-а*** сумна вядомая пастанова 1933 года — дзеля набліжэння беларускай мовы да расейскай.)

Рэч у тым, што сённяшнія слоўнікі цяжка ўважаць за эталон пры выбары канчатку. Напрыклад, назоўнік *націск*, паводле іх, у родным склоне мусіць мець канчатак ***-у***: *націску*. А вось назоўнік *дзеяслоў* — канчатак ***-а***: *дзеяслова*. Але ж абодва гэтыя назоўнікі — абстрактныя, абодва — абазначаюць тэрміны. Чаму канчаткі — розныя?.. Або такі прыклад. Прасторавыя паняткі *луг*, *край*, *шлях* у родным склоне маюць канчатак **-у**: *лугу*, *краю*, *шляху*. А вось прасторавыя паняткі *горад*, *пакой* чамусьці трэба ўжываць з канчаткам **-а**: *горада*, *пакоя*.

Цэлы ж пласт словаў, паводле нарматыўнай граматыкі, можа мець і канчатак **-у**, і канчатак **-а**, у залежнасці ад значэння, у якім ужываецца лексема: *тыпа* і *тыпу*, *сінтаксіса* і *сінтаксісу*, *народа* і *народу*, *пераезда* і *пераезду*, *саюза* і *саюзу*. Складаецца ўражанне, што, каб правільна гаварыць па-беларуску, трэба ўвесь час зазіраць у арфаграфічны слоўнік, а пасля звярацца са слоўнікам тлумачальным. Інакш памылкі непазбежныя!

Але і слоўнікі не ўратуюць акуратных ды ўважлівых карыстальнікаў. Бо яны… супярэчаць адзін адному. Калі верыць «Слоўніку беларускай мовы» (галоўнаму запавету афіцыйнага правапісу), то слова *шэраг* мусіць мець канчатак ***-а***: *шэрага*. А вось паводле «Беларускага арфаграфічнага слоўніку», пастаўленага ахоўваць Закон аб мове, у родным склоне трэба пісаць *шэрагу*. І якая крыніца больш кананічная? Абедзве ж у роўнай ступені афіцыйныя, нарматыўныя!..

Адсунем слоўнікі і прыслухаемся да жывой мовы. Умоўную мяжу паміж канчаткамі ***-у*** і ***-а*** можна правесці паводле значэння назоўніку: **усё канкрэтнае, што абазначае прадмет, рэч, якую можна ўзяць у рукі, перасунуць з месца на месца, мае канчатак *-а*. Усё астатняе — адцягненыя, абстрактныя паняткі, назвы ўстановаў і пабудоваў — мае канчатак *-у***: *«Асобнае пытанне — кантроль за рэалізацыяй закону»*; *«Інфармацыі пакуль мала, аднак вядома, што прэзідэнт Емену застаецца ў аблозе ў рэзідэнцыі»*; *«Марыя перамагла 6:1, 4:6, 7:5, прычым падчас вырашальнага сэту саступала 1:4»*; *«Трэці пацярпелы бок — пакупнікі, якія часова страцілі «сваю краму ля дому»*; *«Аднойчы сябар прапанаваў сысці з заводу, каб зарабляць на жыццё рамяством»*.

Ужываць шырэй канчатак ***-у*** ў родным склоне заклікае доктар філалагічных навук Павел Сцяцко ў сваім даведніку, прызначаным і для журналістаў, — «Культура мовы». Наконт тэндэнцыі расшчапіць словаформу на дзве, надаўшы адной з іх «канкрэтызаванае» адценне і замацаваўшы за ёю канчатак ***–а***, мовазнавец піша: «Трэба трымацца адной словаформы — з канчаткам ***-у*** — дзеля стабілізацыі мовы. Тым больш што ў жывой народнай мове гэтых “навуковых” нюансаў ніхто не трымаецца». І далей: «У выкарыстанні словаформаў роднага склону мужчынскага роду з канчаткам ***-у*** беларуская мова мае шмат супольнага з украінскаю і заходнеславянскімі мовамі, дзе канчатак ***-у*** пераважае ці выступае як амаль адзіная норма, тым часам як расійская мова амаль пазбавілася канчатка ***-у*** на карысць ***-а*** (***-у*** захавалі назоўнікі ў складзе ўстойлівых выразаў: *без году неделя*)» (Сцяцко П. Культура мовы. Менск, 2002. С. 54).

**Назоўнікі множнага ліку ў родным склоне**, ізноў жа, арыентуючыся на жывую мову, **ужываем з поўным, а не нулявым канчаткам**: *«Без адмысловых ведаў і назіральнасці не абысціся»*; *«Нашая*

*задача — каб у гандлёвай сетцы не было небяспечнай для здароўя грамадзян**аў** ежы»*; *«У раёне Луганску зафіксавалі значную колькасць салдат**аў** без апазнавальных знакаў»*.

Перавагу поўнаму канчатку аддаем і ў выпадку назоўнікаў жаночага роду: *«Шэсцьдзясят працаў у тэхніцы калажу»*; *«Ужо з першых хвілін**аў** гульні»*; *«Медыкі ды навукоўцы не могуць выявіць прычын**аў** хваробы»*. Вынятак — назоўнікі жаночага роду, якія абазначаюць жывыя істоты: *кабет*, *жанчын*, *кароў*, *дзяўчат*, — і назоўнікі жаночага роду з асноваю на *г*, *к*, *х*: няма *рук*, *ног*, *кніг*, *мух*. У гэтых выпадках поўны канчатак у множным ліку роднага склону не развіўся.

Асабліва важна ўжываць поўны канчатак у назоўнікаў са збегам зычных на канцы асновы: *фарбаў*, *вербаў*, *гурбаў*, *паўвыспаў*, *пярэспаў*, *шэльмаў*, *астраў*. У гэтым выпадку слоўнікі «дагналі жыццё».

Вольныя нацыянальныя медыі часцей за дзяржаўныя прытрымліваюцца канцэпцыі «прасунутай наркамаўкі». Але раз-пораз і ў дзяржаўным друку бачым імкненне ажывіць фармальны падыход да моўных фактаў. У газеце «Звязда» чытаем: *«Галоўны каток краіны [...] зроблены ў форме залатога ключыка, упрыгожанага пасярэдзіне адмысловым мостам у выглядзе замерзлых хваля**ў**»* (24.01.2015); *«Дакумент заклікае дзелавыя колы кіравацца ў сваёй дзейнасці асноватворнымі прынцыпамі правоў чалавека і працоўных адносін**аў**» (17.02.2015).*

Павел Сцяцко зазначае: «Ідзе натуральны працэс выраўноўвання і словаформаў роднага склону на ўзор усіх астатніх склонаў, якія не маюць адрозненняў, звязаных з тыпам скланення. Яго прыняў на сябе генералізаваны канчатак ***-аў*** (***-яў***) / ***-оў*** (***-ёў***)» (Культура мовы. С. 71). Дык не адрываймася ад гэтага натуральнага працэсу!



## «Прасунутае» словаўтварэнне

Яшчэ адзін важны паказнік беларускасці беларускай мовы — марфеміка і словаўтварэнне. Прыгадаўся такі выпадак. Сын удзельнічаў у конкурсе «Чэмпіён "Вясёлкі"». Падчас выступу ўжыў слова «спартовы». Галоўны рэдактар часопісу, Уладзімір Ліпскі, запытаў яго: дык як жа правільна — «спартовы» ці «спартыўны»? Адказ 9-гадовага хлопца: «Правільна — "спартовы"», — пракаментаваў наступным чынам: маюць права на існаванне абодва варыянты, але «спартовы» — гэта, хутчэй, «тарашкевіца». Дык вось, нягледзячы на тое, што ў свядомасці карыстальнікаў мовы «наркамаўка» і «тарашкевіца» ўлучаюць у сябе значна больш за правапіс, Закон аб беларускай мове не рэгулюе, якія структурныя часткі нам абіраць, як нам пабудаваць слова. Слоўнікі не фіксуюць лексемы «спартовы», але яе фіксуе жыццё — ды інтэрнэт: больш за 85 000 ужыванняў. *Абавязак — абавязковы, абслуга — абслуговы, абутак — абутковы, войска — вайсковы, служба — службовы, суд — судовы.* Гэта ўзоры належнага беларускага словаўтварэння, і ў гэты шэраг добра кладзецца слова *спартовы*.

Затое слоўнікі фіксуюць наступныя сумнеўныя з гледзішча беларускага словаўтварэння адзінкі: *афарміцель, вызваліцель, глушыцель, пакавальшчык, пастаўшчык, перамоўшчык, нарыхтоўшчык, вядучы, сысучы, ажыццявімасць*… якія лёгка пераўтварыць у добрыя словы: *афармляльнік, вызваляльнік, глушыльнік, пакавальнік, пастаўляльнік, перамоўца, нарыхтоўца, вядоўца, сысун, ажыццяўляльнасць*.

Цікава, што для некаторых лексемаў слоўнікі даюць два варыянты, з небеларускім фармантам і ўтвораныя паводле добрых словаўтваральных мадэляў: ~~*адбойшчык*~~ і *адбойнік*, ~~*адборшчык*~~ і *адборнік*, ~~*адзіночнік*~~ і *адзінотнік*, ~~*нелюбімы*~~ і *нялюбы*, ~~*тыпічны*~~ і *тыповы*, ~~*набальзаміраваны*~~ і *набальзамаваны*…

Недаацэньваць словаўтваральныя суфіксы нельга, бо нярэдка яны вызначаюць сэнс: *ледзяны* — вельмі халодны (*ледзяны вецер*), *лядовы* — зроблены з лёду (*лядовая хатка*); *крыштальны* — празрысты, бездакорны (*крыштальны позірк*), а *крышталёвы* — зроблены з крышталю (*крышталёвы кубак*); *акружны* — размешчаны вакол (*акружны шлях*), *акруговы* — які мае дачыненне да пэўнай акругі (*акруговая камісія*).

Часам дзеля пераадолення штучнасці паведамлення дастаткова паправіць адзін канчатак, а часам варта закрануць некалькі ўзроўняў мовы. «Звязда» піша: *«26,9 секунды ёй прайграла галоўная канкурэнтка ў барацьбе за Вялікі хрустальны глобус Кайса Мякарайнен, у яе актыве адзін промах»* (24.01.2015). Дадамо ў сказ беларускасці: *«26,9 секунды ёй **саступіла** галоўная канкурэнтка*

*ў барацьбе за Вялікі* ***крышталёвы*** *глобус Кайса* ***Мякрэйнэн****, у* ***ейным*** *актыве адзін промах».*

*«Новыя цэны ўстаноўлены таксама на серабро, яны павысяцца прыкладна на 25 %»* (Звязда. 24.01.2015). Слова «серабро» сапраўды ёсць у беларускіх слоўніках, але з якой прычыны аўтар абраў менавіта яго, патлумачыць цяжка. Пераробім сказ у рэчышчы «прасунутай наркамаўкі»: *«Новыя цэны* ***ўсталявалі*** *таксама на* ***срэбра****, яны павысяцца прыкладна на 25 %».*

*«Буйная перабудова электрастанцыі адбылася ў 1912 годзе: былі ўстаноўлены новая дынамамашына і дызель магутнасцю 500 конскіх сіл, частка паветраных правадоў заменена падземнымі кабелямі»* (Звязда. 24.01.2015). Слова «провад» — таксама сталы жыхар слоўнікаў, таму фармальна можна лічыць, што аўтар напісаў навіну па-беларуску. Але сапраўды беларускай мову гэтага сказу назваць цяжка. Палепшаны на ўсіх узроўнях варыянт паведамлення выглядае гэтак: *«У 1912 годзе электрастанцыю грунтоўна перабудавалі: усталявалі новую дынамамашыну і дызель магутнасцю 500 конскіх сіл****аў****, частку паветраных дратоў замянілі падземнымі кабелямі».*

Але часам і афіцыйныя сродкі інфармацыі цешаць выбарам моўных сродкаў. Загаловак «Звязды»: «***Навукоўцы*** *“сталі” на крыло*» (17.02.2015). А маглі ж «паставіць на крыло» і «вучоных».

Падсумуем сказанае. Правапіс можа быць афіцыйны («наркамаўка») ці класічны («тарашкевіца»). Афіцыйны правапіс рэгулюецца законам «Аб Правілах беларускай арфаграфіі і пунктуацыі». Факты граматыкі, лексікі, сінтаксісу, словаўтварэння Законам аб беларускай мове не рэгулююцца. Шматлікія ж супярэчнасці і неадпаведнасці ў слоўніках дазваляюць нам абіраць тыя моўныя сродкі, што будуць вызваляць мову ад штучнасці, навязаных звонку фактаў, якія прынята лічыць прыкметамі «наркамаўкі».

Любы тэкст, фармальна напісаны па-беларуску, можна акрэсліць як беларускі ці небеларускі, або ўмоўна беларускі. Дзяржаўныя медыі з прычыны іх кансерватыўнасці ды падкантрольнасці не ў стане пакуль належна дбаць пра жывую натуральную мову на сваіх старонках. Журналісты ж незалежных нацыянальных СМІ могуць лепш парупіцца пра беларускасць сваіх матэрыялаў і пра развіццё і захаванне адметнасцяў беларускай мовы.



# Чалавек, які збірае аўтографы

**Былы дырэктар Баранавіцкага краязнаўчага музея Валерый Палікарпаў мае самую вялікую ў краіне калекцыю аўтографаў вядомых людзей. Калі апынаешся з ім у творчым асяроддзі беларускай сталіцы, не перастаеш здзіўляцца, колькі выбітных людзей яго ведае. З ім шчыра вітаюцца вядомыя мастакі Мікола Купава, Алесь Марачкін, Леанід Шчамялёў, паэты Алесь Разанаў і Ніл Гілевіч.**

**А ў эпоху цемрашальства камуністычнай ідэалогіі маладога кіраўніка за стасункі з Ларысай Геніюш звольнілі з пасады і выключылі з 5-га курса ўніверсітэта.**




*Алесь БЕЛЫ*

## Як усё пачыналася

Кнігі ён палюбіў яшчэ ў дзяцінстве. З цягам часу з’явілася жаданне больш даведацца пра аўтараў таго, што ён чытаў, а пры магчымасці і пазнаёміцца з імі асабіста.

Валерый Палікарпаў нарадзіўся ў сям’і савецкага афіцэра-артылерыста. Дома цікавіліся кнігамі, мелі ўласную бібліятэку. Праўда, назваць яе вялікай можна было з нацягам: тады вайскоўцы больш чым па 4–5 гадоў на адным месцы не затрымліваліся — сёння ты ў Кіеве, а заўтра можаш апынуцца ў Хабараўску ці Будапешце. А гэта значыць — зноў пераезд. Ну а з улікам таго, што ў нашай вялікай краіне ўсё было дэфіцытам (мэбля, дываны, крышталь…) і на новым месцы службы набыць што-небудзь было амаль немагчыма, даводзілася выбіраць — што грузіць у кантэйнеры. «Наша сям’я часцяком абыходзілася мэбляй, якую давала вайсковая часць. А кніжкі мы заўсёды вазілі з сабою, бо гэта таксама было дэфіцытам», — расказвае Валерый Канстанцінавіч.

Спачатку Валерый карыстаўся тым, што было дома, хадзіў у бібліятэку — то гарадскую, то гарнізонную. Пасля музычнага вучылішча, якое скончыў у Маладзечне, дзе, між іншым, вучыўся і бавіў час разам з Юрыем Антонавым, працаўладкаваўся ў музычную школу ў Баранавічах. Цяпер ён набываў кніжкі і папаўняў уласную бібліятэку сам. Толькі анатацыі пра аўтараў ці нават вялікага ўступу пра іх творчасць Палікарпаву падавалася мала. І ён пачаў ліставацца з пісьменнікамі, а потым з многімі і знаёміцца. Асабліва шырокі размах гэта набыло, калі паступіў у БДУ на факультэт журналістыкі. У сталіцы было шмат цікавых сустрэч — з Рыгорам Барадуліным, Генадзем Бураўкіным, Канстанцыяй Буйло…

У выніку стасункаў з цікавымі людзьмі ў бібліятэцы Палікарпава за гады навучання і працы сабралася больш за 1500 кніг з аўтографамі аўтараў. Чалавек з трыста іх ён ведаў ці ведае асабіста. І калекцыя гэта пастаянна папаўняецца. Таму яго бібліятэка часткова захоўваецца ў гаражы — дома для кніг ужо нестае месца. Ён не проста збірае іх — чытае і перачытвае. Для Палікарпава аднолькава цікавыя і проза, і паэтычныя творы, і гістарычныя нарысы.

## Караткевіч, Быкаў, Геніюш…

Першую кнігу з пажаданнямі шчасця, плёну і поспехаў яму падарыў вядомы беларускі пісьменнік, аўтар раманаў «Мора Герадота», «Градабой», кніжак для дзяцей Павал Місько. Як расказвае Валерый Канстанцінавіч, знаёмства пакінула незабыўныя адчуванні, гэта было далучэнне да іншага свету, да нечага новага, асаблівага.

Потым былі сустрэчы з Уладзімірам Караткевічам на розных мерапрыемствах і ў літаратара дома. На памяць у Валерыя засталося некалькі кніжак з аўтографамі знакамітага пісьменніка. «Аднойчы я прыйшоў да Караткевіча з мастаком Генрыхам Ціхановічам і прынёс яму ў падарунак каталог з 10 работ аднаго з лепшых украінскіх графікаў, заслужанага мастака Украіны Георгія Малакава. Яго гравюры — “Сюжэты сярэднявечча”, “Заваёўнікі мораў” — ужо на пачатку 1970-х былі вядомыя не толькі ў Савецкім Саюзе, а і далёка за яго межамі. Караткевіч быў так усчулены падарункам, што ўсклікнуў: “Я запрашаю













вас! Я не ўжываю, а вам налью…”», — расказвае Валерый Палікарпаў. Дзецям вайны Караткевічу і Палікарпаву было аб чым пагаварыць, што ўзгадаць. Па словах Валерыя Канстанцінавіча, на пачатку 1980-х ён выпадкова спаткаўся з Уладзімірам Караткевічам недалёка ад мастацкага салона ў Мінску. Уладзімір Сямёнавіч набыў там абраз і нёс дадому. Гэта была іх апошняя сустрэча.

Перапіска з Васілём Быкавым пачалася, калі той жыў яшчэ ў Гародні і працаваў у абласной газеце. Быкаў пражыў у гэтым абласным цэнтры больш за 25 гадоў, там ён напісаў свае творы «Жураўліны крык», «Трэцяя ракета», «Альпійская балада»… Валерый дасылаў пісьменніку яго творы, той падпісваў іх і адпраўляў у Баранавічы. Былі ў іх і сустрэчы ў сталіцы, часцей — у Саюзе пісьменнікаў Беларусі.

Цудоўныя стасункі, падмацаваныя шматлікімі лістамі і ўсімі кнігамі аўтаркі з подпісамі, у Валерыя Палікарпава з паэткай з Гародні, лаўрэатам Дзяржаўнай прэміі Данутай Бічэль-Загнетавай. Данута Янаўна стварыла ў Гародні музей Максіма Багдановіча, шмат гадоў была яго дырэктарам, выдала не адзін дзясятак кніг паэзіі і прозы. Валерый Палікарпаў неаднаразова сустракаўся з ёй, мае з ёю сталую перапіску.

З Ларысай Антонаўнай Геніюш, якая жыла ў Зэльве, Палікарпаў таксама сустракаўся шмат разоў. За тое, што меў стасункі з «іншадумкай», якая не прыняла нават савецкае грамадзянства, што дапамагаў выправіць візу сыну Ларысы Геніюш Юрку, які жыў за мяжой, Валерыя звольнілі з пасады дырэктара краязнаўчага музея, выгналі з пятага курса ўніверсітэта і «как чуждый партии элемент» выключылі з КПСС. Пасля гэтага ён да выхаду на пенсію выкладаў у музычнай школе.

Ёсць у Палікарпава і аўтографы Зянона Пазняка, які цудоўна фатаграфуе і ў свой час выдаў ілюстраваную кнігу «Браслаўскія азёры». На пачатку 1980-х яны шмат разоў бачыліся, разважалі пра захаванне гістарычнай спадчыны.

Жывучы ў правінцыйных Баранавічах, Валерый Палікарпаў шмат лістоў слаў і ў былую сталіцу нашай радзімы Маскву вядомым палітычным дзеячам, военачальнікам. У выніку Сямён Будзённы і Анастас Мікаян даслалі Палікарпаву свае выдадзеныя ўспаміны пра Крэмль і Леніна.

Калі напрыканцы мінулага стагоддзя ў касцёле ў Крошыне, што недалёка ад Баранавіч, камусьці ўздумалася адчыніць музей, паэт Анатоль Сыс, выступаючы там перад прысутнымі, сказаў: «У касцёле месца не музею, а Богу». Добра, што з цягам часу так і атрымалася. А Валерыю Палікарпаву Сыс напісаў тады ў альбом наступнае: «…Бо нельга паганіць храм, бо нельга святое нішчыць. Куды ж тады прыйдзе хам ад хамства душу ачысціць!»

Мае Палікарпаў аўтографы Карнея Чукоўскага, шмат у яго кніг Рымы Казаковай, падпісаных аўтаркай, ліставаўся з ім і падпісваў кнігі і наш славуты Пятрусь Броўка. А Максім Лужанін напісаў у сваёй кнізе так: «Мець павінен кнігалюб добры нюх і востры зуб. Хочаш вудзіць кніжных карпаў — будзь няўлоўным, Палікарпаў!»

Аўтографаў у Палікарпава за гады жыцця набралося шмат. Таму некаторыя кнігі, падпісаныя аўтарамі, напрыклад, двойчы Героем Савецкага Саюза генерал-палкоўнікам Паўлам Батавым, пад камандаваннем якога ажыццяўлялася вызваленне Баранавіч, Валерый пакінуў мясцоваму краязнаўчаму музею.


Зэльва, Дзень Перамогі
1972 г.

Ларыса Геніюш

## Каб кніга мела пазнаку ўладальніка

Неяк так атрымалася, што, меўшы добрую бібліятэку, Валерый Палікарпаў захацеў, каб яго кнігі былі пазначаныя і ўласным экслібрысам — выкананай мастаком наклейкай на ўнутраным баку пераплёту з імем уладальніка кнігі. Першы экслібрыс яму зрабілі ў 1965 годзе. Потым іх стала больш за 50. Дзякуючы таму, што Палікарпаў перапісваўся і сустракаўся з многімі літаратарамі і мастакамі, ён набыў «саюзную» вядомасць, і экслібрысы яму пачалі рабіць пад кнігі дакладных аўтараў, напрыклад, «З Есеніяны Валерыя Палікарпава».

У яго калекцыі, якая цесна звязаная са зборам аўтографаў, і экслібрыс, зроблены адным са старэйшых беларускіх мастакоў Яўгенам Ціхановічам да кніг, напісаных Рокуэлам Кентам, амерыканскім літаратарам, мастаком, падарожнікам. Той пэўны час жыў на Алясцы, быў на Вогненнай Зямлі, у Грэнландыі, а сябруючы з СССР, падарыў савецкаму народу некалькі соцень сваіх карцін, за што быў ушанаваны званнем Ганаровага члена Акадэміі мастацтваў СССР. Палікарпаў паслаў адзін з адбіткаў экслібрыса «Рокуэлкенціяна» Кенту ў Амерыку, і той вярнуў яго Валерыю з аўтографам. А калі пасля смерці Рокуэла ў Мінск прыязджала ўдава творцы Салі Кент, Палікарпаў бачыўся з ёй, і яна падпісала яму кнігу свайго мужа «Гэта я, Госпадзі».

Што тычыцца баранавіцкіх мастакоў, то Палікарпаву рабілі экслібрысы Міхась Шостак, Венанцы Бутрым…

## Дзякуючы экслібрысам, патрапіў за мяжу

Так атрымалася, што Валерый Канстанцінавіч — адзіны з Савецкага Саюза — патрапіў у 1969 годзе на кангрэс экслібрысістаў у Будапешт. «У той час у сталіцы Венгрыі якраз праходзіла выстава венгерскай графікі, і, калі мне далі слова падчас адкрыцця, я сказаў, што вельмі хацеў бы, каб яе пабачылі на маёй радзіме, — расказвае Валерый Палікарпаў. — Амбасадар СССР у Венгрыі, які таксама быў запрошаны на адкрыццё, пачуў гэта, і неўзабаве выставу даставілі ў Мінск, а пасля і ў Баранавічы». Падзея, па словах Палікарпава, выклікала вялікі пярэпалах: як гэта просты дырэктар музея з правінцыі асмеліўся выступіць на такім сур'ёзным форуме за мяжой — ды яшчэ са сваімі прапановамі. Палікарпава выклікалі ў аддзел культуры ЦК КПБ «на ковер». На ўваходзе ён здаў свой партбілет. І хоць так было прынята, падумаў — ці вернуць партыйны дакумент назад? Загадчык аддзела ЦК доўга трымаў Валерыя «стоячы», потым прапанаваў сесці. Пасля гэтай гутаркі ўсё неяк утаймавалася, забылася. І Валерый яшчэ трошкі папрацаваў дырэктарам музея ў Баранавічах. Якраз да таго часу, калі ён пачаў ездзіць у Зэльву да Ларысы Геніюш, пасля чаго ім зацікавіліся «мастацтвазнаўцы ў цывільным».

Валерый Канстанцінавіч працягвае збіраць кнігі. Цікавіцца навінкамі, сам пераплятае тое, што прыходзіць да яго ў непрыглядным стане ці ў выразках. Пераглядае аўтографы літаратараў і мастакоў. І з сумам заўважае, што шмат хто з маладых цяпер нават не ведае такога слова — «экслібрыс». «Яны ж нічога не чытаюць», — дадае ён.

Нехта можа пацікавіцца: а колькі ж каштуе такая калекцыя аўтографаў? Калі лічыць проста кошт кніжак і паштовыя перасылкі іх аўтарам і назад ці паездкі збіральніка ў сталіцу, то, пэўна, няшмат. Але ці шмат хто з нас можа сказаць, што быў знаёмы з Людзьмі Сусвету, Асобамі, такімі як Янка Брыль, Іван Чыгрынаў, Анатоль Сыс… А Валерый Палікарпаў можа! Таму, калі хто спрабуе прыцаніцца да калекцыі яго сустрэч, — гэта бессэнсоўна. Такія рэчы не прадаюцца.


Прысяга.

Беларусь, мая родная маці!
Я не здраджу нікалі табе
За ніякія ў свеце багацці —
Лепш злажу галаву ў барацьбе.

Ты ж мяне ад маленства карміла
Хлебам з роднай любімай зямлі,
З крыштальных крыніцаў паіла,
Што з-пад сэрца твайго паплылі.

У вясняныя дзіўныя ранкі
Палюбіў я вітаць тут зару,
А матулі маёй калыханкі
Навучылі любіць Беларусь.

У роднай вёсцы я рос-гадаваўся,
Дзе сінеў нада мною блакіт,
У косах роднага сонца купаўся
За сялом ля зялёных ракіт.

Тут я рос на вяковым раздоллі,
Ад бацькоў прыклад браў працаваць,
І ад птушак у лесе і полі
Я вучыўся тут песні спяваць.

Тут вучыў мяне бацька мой родны
Сваю мову любіць, шанаваць,
Сцерагчы гэты скарб наш народны,
Яго ў крыўду нідзе не даваць.

Тут за родныя школы змагаўся,
За свой край беларускі цярпеў,
Бязупынку да волі я рваўся,
Скінуць панскія путы хацеў.

Беларусь, мая родная маці!
Я не здраджу нікалі табе
За ніякія ў свеце багацці —
Лепш злажу галаву ў барацьбе.

Сяргей Новік-Пяюн. —

Дарагому Валерыю Канстанцінавічу Палікарпаву на шчыры ўспамін аб сустрэчы ў Мінску 16 сакавіка 1975 года —
Сяргей Новік-Пяюн. —

Кальварыя, гітлерцкі лагер смерці. Чэрвень 1944 года.

# Стажыроўка ў рэдакцыях Украіны

Фонд развіцця СМІ пры падтрымцы MYMEDIA прапануе стажыроўку для маладых журналістаў у рэдакцыях суседняй Украіны.

Студэнты факультэтаў журналістыкі і маладыя рэпарцёры з досведам працы не болей за пяць гадоў могуць удасканаліць свае прафесійныя навыкі і павучыцца побач са спрактыкаванымі калегамі ў рэдакцыях знаных СМІ ў розных рэгіёнах Украіны.

Стажыроўка тэрмінам ад двух тыдняў да двух месяцаў аплачваецца арганізатарамі.

Каб патрапіць на стажыроўку з траўня — чэрвеня, трэба звязацца з арганізатарамі да 20 красавіка. Заяўку дасылайце на электронную пошту Фонду Развіцця СМІ (падрабязнасці — на сайце Беларускай асацыяцыі журналістаў www.baj.by).

Адбор удзельнікаў стажыроўкі конкурсны.

